# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1733) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 30 ЛІПЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




## НОЧКАЙ КУПАЛЬНАЮ Ў БЕЛАВЕЖЫ...

Юрка Азарка, старшыня Арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі з Нью-Йорка, і Таня Антонава, журналістка „Голасу Радзімы" з Мінска, так загаварыліся ў Гайнаўцы, што, каб паспець на традыцыйнае Купалле, давялося нам гнаць машыну ў Белавежу з хуткасцю 90 км у гадзіну. Недзе ў палове дарогі як з-пад зямлі вырас прадстаўнік ОРМО з „лізаком" у руках, а за ім з-за кустоў выйшаў і міліцыянер. Вялізны Юрка, якога мы пасадзілі спераду побач з шафёрам, са сполахам глянуў на мяне: „Але ж я не маю пры сабе ніякіх дакументаў!" „Сядзі! — супакоіла я яго. — Гэта ж не ты, а шафёр завініў!" І сапраўды, міліцыянер папрасіў у шафёра дакументы. Глядзеў, перагортваў. Я заўважыла, што ў тым месцы, дзе нас спынілі, хуткасць была моцна абмежаваная, і цяпер ужо пачала баяцца, што нашаму шафёру не абыйсціся без клопатаў. Выйшла з машыны і кажу па-беларуску ў бок „армоўца": „Хлопцы! Вы, бадай, хочаце, каб мы спазніліся на Купалле?!" У вачах грамадскага ахоўніка парадку я ўбачыла вясёлыя іскрынкі. Міліцыянер далей дакладна правяраў паперы шафёра. Тады я рашуча паўтарыла: „Хлопцы, ці вы, праўда, хочаце, каб мы спазніліся на Купалле?!" Міліцыянер захлопнуў усе кніжачкі нашага шафёра і стрымана ўсміхнуўся: „Нех пан едзе!"

Гэта быў шчаслівы пачатак Купалля, якое мела адбыцца ўначы з 23 на 24 чэрвеня гэтага года. У Белавежы, каля станцыі Белавежа-палац, ужо было мора людзей і мора аўтамашын. Відаць было, што беларусы папрыязджалі здалёк на сваё свята. Ноч апускалася паволі на Белавежу, а твары людзей былі ўрачыстыя і поўныя чакання. Выступленні мелі адбывацца тут, на высокай платформе вакзала...

А ўсё ж неяк неспадзявана праз цемру ночы прарвалася песня: „Купалінка, купалінка, цёмная ночка, цёмная ночка, а дзе ж твая дочка...", і магутныя пражэктары асвяцілі цудоўны карагод мастацкіх калектываў, які нёс вянкі са свечкамі ў напрамку правізорнай сцэны. З песняй увайшоў карагод на перон. Святкаванне Купалля пачалося.

Алесь Барскі, гаворачы пра гэта традыцыйнае, сягаючае яшчэ язычаскіх часоў свята, як і выпадае паэту, надта паэтычна прадставіў усю эвалюцыю кахання ў гэту яднаючую ноч, калі рука цягнецца да рукі, пасля — да грудзей і г.д., а Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко — знатная ўжо наша эстрадная пара — распачалі канцэрт. У гэтым канцэрце не забракла найлепшых, праверанымі часам і жыццём, калектываў, шырока вядомых не толькі на Беласточчыне, але і далей, у свеце.

Першы спяваў калектыў з Чыжоў. Пасля былі незмардаваныя „Хлопцы-рыбалоўцы". Прыехаў таксама 35-гадовы ўжо „Гарадок", найстарэйшы і найбольш вопытны калектыў у нас, і ўручыў крыху малодшым, але ўсё ж ужо 25-гадовым „Васілёчкам" (якія выспелі ў Бельску і толькі дзень таму адсвяткавалі свой слаўны юбілей) вялізны букет васількоў, нарваных па дарозе, калі гарадоцкія самадзейнікі ехалі ў Белавежу на Купалле.

Выступіў таксама вялікі, мешаны гайнаўскі хор, які экспла-

(Працяг на стар. 6)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

### БАС САРДЭЧНА ДЗЯКУЕ!

Алексу Сільвановічу, жыхару Злучаных Штатаў Амерыкі, за каштоўны падарунак — высакаякасную фатаграфічную апаратуру.

Беларускаму асяроддзю ў Злучаных Штатах Амерыкі за камп'ютэрную друкарку.

Падарункі гэтыя ў вялікай ступені спрычыняцца да развіцця нашага руху і ягонай папулярызацыі ў шырэйшых кругах грамадства як беларускага, так і польскага.

## КУПАЛЛЕ'89

Пісаць пра чарговае студэнцкае Купалле, не падзякаваўшы на самым пачатку сям'і Латышонкаў, было б проста грэхам. Яны ўжо чацвёрты год прымаюць у сябе, у Супраслі, цэлыя натоўпы распушчанай моладзі, ад якой невядома чаго можна спадзявацца. Сёлета клопатаў было больш чым заўсёды. 25 чэрвеня на дачу Латышонкаў прыперла больш за дзвесце прагнучых знайсці кветку папараці асоб. Сярод іх таксама беларусы з Гародні, ЗША, Нямеччыны, Англіі, сябры палякі. Усе яны спаткаліся з ветлівасцю гаспадароў і створанай імі цудоўнаю атмасферай. А пальцы па мёдзе аблізваць будзем, не інакш, да наступнага Купалля.

Ад імя ўдзельнікаў і арганізатараў -БАСа — шчырае беларускае ДЗЯКУЙ!!!

Афіцыйнае адкрыццё сёлетняга святкавання Купальскай ночы мела месца ў дзесяць гадзін вечара. Усіх прысутных прывіталі старшыня БАСа Яўген Вапа і гаспадар Алег Латышонак, а дакладзік пра асаблівасць гэтай ночы і вітанні з Нямеччыны ад Юркі Ляшчынскага зачытаў Мікола Ваўранюк. Купальскія песні пачалі спяваць дзяўчаты з Бельска ў суправаджэнні гітары Элі Бэзюк. Пасля далікатнага, ціхага пяяння нашых дзяўчат усталі гродзенцы ды завялі на галасы песню, што панеслася па Супраслі-рацэ і навакольных лугах. Потым у карагодзе дзяўчаты панеслі свае вяночкі і пусцілі іх на ваду. Хвацкія малойцы, здавалася, толькі гэтага і чакалі. Нягледзячы на сцюдзёную ваду, булькнула ў яе найменш дзесяць адважных (Я, як адзін з іх, кажу, было варта!). Затым забава. А...

як забава, забава —<br>
то да рання,<br>
як забава, забава —<br>
цэлу ноч.



### ГІСТАРЫЧНЫ ДАГАВОР

25 чэрвеня 1989 г., у час святкавання Купалля, Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрапанавала Арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі навязанне сяброўскай лучнасці і супрацоўніцтва. АБАМ і БАС яднае іх дэмакратычны характар і незалежніцкія погляды.

Старшыня АБАМ Юрка Азарка падтрымаў прапанову. Такім чынам, дзень 25 чэрвеня 1989 г. лічым пачаткам нашага супрацоўніцтва.

| Старшыня і сябры АБАМ: | Старшыня і сябры БАС: |
| --- | --- |
| Віктар Тур | Данута Мароз |
| Вера Запруднік | Барбара Кучынская |
| Галіна Бахар | Валянцін Сельвясюк |
| Павал Рамана | Мікола Ваўранюк |
| Алеся Кіпель | Міраслаў Пякарскі |
| Аня Бартуль | Ярак Зеляпкевіч |
| Юрка Кіпель | Аліна Якімюк |

Супрасль, Валілы, 26.06.1989 г.



*Лета — час студэнцкіх рэйдаў па Бацькаўшчыне.*

*Фота з архіву.*

### НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

27 чэрвеня меў месца паход з Валіл у Мастаўляны — месца нараджэння Кастуся Каліноўскага. Пачалі ад беларускага снедання (бульба і халадзец) у Лёніка Тарасэвіча, за якое трэба падзякаваць не толькі гаспадару, але і дзяўчатам, што напрацаваліся, рыхтуючы яго. Потым Лёнік паказаў свае карціны, расказаў пра сябе і сваё мастацтва. Апрача нас, студэнтаў, прысутнічалі: танцавальны гуртом „Васілёк" з Нью-Йорка, група з гродзенскай „Паходні" і ліцэісты з бельскага „Парнаса". У Лёніка быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве між Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі і БАСам.

Пакуль, памучаныя, дабраліся ў Мастаўляны, вечарэла. Стома прапала адразу, калі пабачылі вялікі натоўп людзей, што чакаў нас каля царквы. Сабраўся хіба цэлы прыход. Дзеткі прывіталі нас беларускім вершам і кветкамі. Святар адслужыў вячэрню, пасля якой мы, згаладнелыя, кінуліся на печаныя пеўні, сала, агурочкі і цыбулю, прахлісваючы півам. Мясцовыя мелі шмат пацехі, але нарэшце іхняя цярплівасць скончылася і пачалі нас падганяць да вогнішча, балазе, з-за нас чакала някормленая жывёла. Вельмі хутка ўсіх з'яднала беларуская песня. У перапынках бралі голас людзі, каб сказаць некалькі слоў пра Каліноўскага і ягонае месца ў нашай гісторыі. Свае „фокусы" паказваў таксама „Парнас", рассмешваючы людзей да слёз.



*Дарога ў Мастаўляны.*



*Ля вогнішча ў Мастаўлянах.*

Пра што праўдзіва напісалі вам удзельнікі абодвух мерапрыемстваў:

**Барбара Кучынская,**<br>
**Мікола Ваўранюк**

На фатаграфіях увекавечыла Барбара Кучынская.

### ЛАЎРЭАТЫ СТУДЭНЦКАГА КОНКУРСУ БЕЛАРУСАВЕДЫ ЗАЯЎЛЯЮЦЬ:

„Беручы пад увагу цяжкае матэрыяльнае становішча дарагога нам Беларускага аб'яднання студэнтаў і яго высакародныя памкненні, ажыццяўленню якіх перашкаджаюць нялёгкія рэаліі нашага штодзённага жыцця, пераказваем палову выйграных намі амерыканскіх долараў (разам 90 дол.) на тое, каб БАС мог здзейсніць хаця частку сваіх амбітных намераў"

Барбара Кучынская (30 дол.), Юрка Каліна (25 дол.) Веслаў Харужы (20 дол.), Алесь Карпюк (10 дол.), Міраслаў Урбановіч (5 дол.).

# НОЧКАЙ КУПАЛЬНАЮ Ў БЕЛАВЕЖЫ...

(Працяг са стар. 1)

даваў у апошні час на фірмаменце беларускай культуры (кіруе ім сёння Анна Стрыха з Гродна, якая да таго ж і запявае, і падтанцоўвае...).

Пасля выступалі гайнаўскія „Дубіны“ пад кіраўніцтвам Пятра Скепкі ў сімбіёзе з ньюйоркскім танцавальным калектывам „Васілёк“, якім кіруе Ала Орса-Рамана і які ўпершыню прыехаў на Беласточчыну па запрашэнню якраз „Дубіноў“. „Дубіны“ ігралі і спявалі, а „Васілёк“ танцаваў на гэтай не надта падыходзячай для іх скураных лапцікаў сцэне, але і так Ала Орса сардэчна дзякавала за тое, што маглі пабачыць за адзін раз столькі землякоў.

На канец адспявалі, адыгралі і адгулялі сваё цудоўнае выступленне хлопцы з Воранава, якое знаходзіцца недалёка ад Ліды ў Гродзенскай вобласці БССР. Гэты калектыў „Лявоны“ ўжо добра вядомы не толькі на Беларусі, але і ў нас. Ужо трэці раз Беласточчына вітала іх з вялікім энтузіязмам.

І так вось тут — у прадаўняй пушчы, сярод векавых дрэваў, сімвалізуючых трываласць і вечнасць нашых карэнняў, сустрэліся беларусы не толькі з



Вянкі ў дарозе.



Калектыў з Гайнаўкі.



Ала Орса-Рамана перадае сардэчныя пажаданні ад амерыканскіх беларусаў



Бельскія „Васілёчкі“.

Беласточчыны, але, і з Варшавы, і з Гродзеншчыны, і з Мінска, і нават з заакіянскага Нью-Йорка. Кіраўнік амерыканскага „Васілька“ падсумавала свой прыезд вельмі цёпла і сардэчна; яна сказала: „Хоць мы і далёка ад вас, але хочам паказаць, што і там, у Амерыцы, мы не забываем свайго роднага, беларускага...“.

Цёплая, парная ноч даходзіла да поўначы, калі закончылася выступленне мастацкіх калектываў. Тады кожны калектыў ізноў узяў свой вянок, і каляровы карагод у святле пражэктараў з купальнымі песнямі пайшоў да ракі.

І вось вянкі ўжо плывуць па вадзе. Спевы, музыка, смех. Праўда, па вянкі ніхто не скача: занадта высока! Сёння ж людзі практычныя, хаця сабралася тут мноства моладзі і студэнтаў — „басаўцаў“. Але і ніхто не спяшаўся занадта ў Старую Белавежу, дзе меў адбыцца пачастунак пры вогнішчы...

Не спяшаліся і мы з Таццянай Антонавай. Хацелася ўсё пабачыць. Высветлілася, аднак, што наш шафёр махнуў туды адразу пасля канцэрта, і мы засталіся ў цемры на ласку лёсу.

Да Старой Белавежы давезлі нас на гэты раз сваім аўтобусам „амерыканцы“.

І пасля ўжо дапазна, а фактычна да самай раніцы, (хто колькі даў рады) было гулянне сярод дрэў, пры вогнішчы — супольным, вялікім, яднаючым... А песні нашы народныя, беларускія плылі далёка, будзячы начную пушчу.

**Ада Чачуга**
**Фота Уладзіслава Завадскага**



*На Купаллі ў Белавежы выступілі воранаўскія „Лявоны".*



*Гарадоцкі калектыў.*



*Танцуе калектыў „Васілёк" з Нью-Йорка.*

## ЮЛЬЯНА ВІТАН-ДУБЯЙКОЎСКАЯ

# СМЕРЦЬ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

— 8 —

19-га жніуня я рана пайшла ў санаторыю. Ляля кепска спала і я ёй параіла адпачыць і прыйсці падвечар, разам пойдзем дадому.

Іван гэтай раніцай мне не спадабаўся, выглядаў змучаны і невясёлы.

— Ты, мусіць, дрэнна спаў, Ясенька?

— А так, я ўчора гэтак пераняўся прыездам Антона, што доўга не мог заснуць.

— Ну, ты цяпер, пасля снедання, засні, а я тут пачытаю.

— Можа газеты маеш?

Вось не забыў, — падумала я і сказала: — Ляля прынясе, яна хацела ўзяць потым новыя, як прыйдуць з Варшавы. Я тут маю Евангелле, гэта мяне супакойвае, а газетная брахня дэнервуе.

Нядоўга я сядзела пры вакне, Іван адазваўся:

— Юлінька, мне не спіцца, можа ты мне пачытаеш, як учора?

Каб змяніць ягоныя думкі і вярнуць яму добры настрой, я пачала чытаць Евангелле ад Лукі, аб нараджэнні Хрыста, дзе зямля і неба весяляцца.

— Ах, Юлінька, — пачаў Іван, — вось на Каляды мы будзем у Вільні і пойдзем, як даўней, разам на пастэрку.

— Ну, так, мой родны, але каб хутчэй паправіцца, ты пастарайся заснуць, каб адпачыць перад абедам.

Я сказала, як некалі ў Вільні: „Спі вочка, спі другое", пацалавала вочы і ўзяла ягоныя рукі і ціха гладзіла і гэтым дасягнула, што ён драмаў да абеду.

Калі я вярнулася са сталовай, сястра яшчэ была пры Іване, яна наракала, што ён сёння амаль нічога не еў.

— Ах, я не маю апетыту, і мне якось цяжка ў грудзёх, — жаліўся ён.

— Пад вечар загляне доктар, — пацешыла сястра.

— Ясенька, калі табе цяжка ў грудзёх, то ты не гавары, — казала я, калі сястра выйшла. — Вось лепш табе аб нашых віленскіх прыяцелях апавядаць буду.

І я пачала перабіраць усіх знаёмых, як яны цікавіліся весткамі з Закапанага і зычылі яму здароўя. Але думкі Івана былі пры Антоне, ён мяне раптам перарваў:

— Юлінька, як ты думаеш, хутка прыедзе Антон?

— Можа ў канцы тыдня.

— Ах, сёння толькі аўторак, так нудна чакаць, і што за навіны ён прывязе, што яны там дасягнулі?

— Ах, Ясенька, дні хутка праходзяць!

— Я так хачу яго пабачыць!

І якаясь трывога дрыжэла ў ягоным голасе. І мне ўдзялілася ягоная трывога, і мяне ахапіў непакой за яго. Але ж ксёндз абяцаўся прыйсці са св. сакрамантамі!

— Ясенька, калі ксёндз да цябе прыйсці хацеў з „Панам Богам"?

— Ну, хутка, — адказаў Іван. Трэба мне спытаць сястру, — у думках пастанавіла я.

Але вось надыйшла і Ляля. Яна пачала расказваць, што ў пансіёне сёння быў малы перапалох: у Дунаец уцякла малая выдра „Зоська", якую трымалі ў клетцы гаспадары пансіёна.

— Добра зрабіла, што ўцякла, — казаў Іван, — на што яе мучылі ў няволі?

Ляля перапрашала, што праз гэтую падзею забылася захапіць купленыя газеты.

— Ну, Юлінька перагледзіць і заўтра мне перакажа, я ўсё роўна чытаць не буду, — ціха казаў Іван.

І Ляля і я гаварылі аб лісце з Вільні. Іван толькі слухаў, я бачыла, што ён стомлены.

— Мы сёння раней выйдзем, Ляля, доктар мае яшчэ прыйсці. Ты зайдзі да сястры і чакай там мяне.

Я тады ўзяла рукі Івана і сказала:

— Бачыш, мы разам не маліліся і ты дрэнна спаў. Сёння памолімся, каб Бог даў табе добры адпачынак і ты б прабудзіўся вясёлы, як у тыя дні.

Адмовіўшы пацеры, я зычыла яму добрай ночы. Выйшла з непакоем, Іван сёння быў іншы, як у тыя дні, відаць было, што сілы яго пакідаюць. У сястры ўжо чакала Ляля. Я спытала сястру, ці яна не ведае, калі ксёндз можа быць „з Панам Богам".

— Звычайна раніцай, пасля першае імшы.

— Ах, я так чакаю гэтага, бо сёння наш хворы мне не спадабаўся, у яго прыкметны ўпадак сіл.

— Так, — казала сястра, — і я гэта заўважыла.

— Ці сястра мае пад рукой нумар нашага пансіёна?

— А так, ён у мяне запісаны, калі трэба, то я выклічу пані. Але мне час да хворага, бо доктар хацеў быць перад вячэрай.

Мы моўчкі ішлі дахаты, не хацелі прызнацца, што баімся нямінучай катастрофы, якая ціхім, але пэўным крокам надыходзіла. Вячэраць мне не хацелася, я выпіла толькі гарбату.

— Лялінька, сёння памолімся, каб Бог быў міласцівы да Івана, — казала я.

20-га жніўня, пад раніцу, нас разбудзіла гаспадыня, што пан Луцкевіч меў сардэчны прыпадак і што нас просяць рана прыехаць у санаторыю.

Мы ўсхапіліся, гаспадыня, вельмі мілая жанчына, насілу ўгаварыла нас выпіць цёплае малако і ўсунула ў сумку Лялі салодкія піражкі. Я кінулася да майго чамадана і дастала грамніцу, што дала Пятруся.

Па восьмай мы ўжо былі ў санаторыі. Доктар спаткаў нас весткаю, што сэрца хворага адмаўляе і ён кожную хвіліну можа навекі зачыніць вочы. Мы ўвайшлі асцярожна, але Іван нас зараз пабачыў, сказаў ціха і ўрачыста:

— Павіншуйце мяне, я сёння прычасціўся.

*(Працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Барыс Сачанка

# НАСЦЕЧКА

З горада ў вёску да бабы і дзеда прыехала ўнучка Насцечка.

— Ну-ну, — казалі тата і мама. — Паглядзіце, у каго яна ўдалася?

Надта ж спадабалася Насцечцы ў дзеда і бабы. Ды так, што, калі тата і мама пачалі збірацца ехаць назад у горад, Насцечка нават заплакала.

— Не хачу нікуды ехаць. Хачу ў дзеда і бабы жыць.

Дзед і баба толькі таго і чакалі.

— Няхай пераначуе ў нас, — узяліся яны ўгаворваць тату і маму. — Калі што якое, заўтра прыедзеце і забераце.

Тата і мама паслухаліся.

Ні на крок не адыходзілі ад унучкі дзед і баба. І накармілі яе, і напаілі, і спаць палажылі.

Прачнулася раніцай Насцечка і доўга не магла зразумець, дзе яна. Калі ж нарэшце зразумела, здагадалася, саскочыла з ложка, патэпала босымі ножкамі туды, дзе была кухня. Адчыніла дзверы — і ўбачыла бабу і дзеда. Баба, нагнуўшыся над дзіўнай драўлянай пасудзінай, нешта секла, а дзед... Што ж гэта такое рабіў дзед? Сядзеў на табурэціку і біў малатком па нечым бляшаным — дзынь-дзынь-дзынь!..

— Дзед, што ты робіш? — спытала Насцечка.

— Касу кляпаю, — заўсміхаўся ў свае пышныя пшанічныя вусы дзед.

— А нашто табе каса?

(Працяг на стар. 10)



*Найлепшыя вучаніцы чацвёртага класа са школы ў Храбалах.*
*Фота Яніны Чэрнякевіч.*

Міхась Пазнякоў

# РАНАК

Белым туманам,
Цёплым, духмяным,
Па соннай траве
Ранак плыве.
Сонейка ўстала,
За гаем заззяла
І дорыць цяпло —
Усё каб расло.

Вецер падняўся,
За вёску падаўся —
Каб жыта спяліць,
Сена сушыць.

І салавейкі
Пабралі жалейкі,
Гімны пяюць
Новаму дню.



*Удзельніцы конкурсу „Беларуская песня 89" для школьнікаў. Вакальная група дзяўчатак з Дашоў. Вядзе калектыў настаўніца Валянціна Дуда.*
*Фота Я. Чэрнякевіч.*




Беларуская народная казка

Быў у аднаго гаспадара стары конь. Цяжка ўжо яму стала саху цягаць, пачаў ён прыставаць. Пашкадаваў гаспадар каня, падкаваў яго сталёвымі падковамі ды пусціў на луг адпасвацца.

Пасецца конь тыдзень, пасецца другі. Направіўся, нават падбрыкваць пачаў.

Трапіў аднойчы на гэты луг леў. Убачыў каня і здзівіўся: што за звер такі?

— Хто ты будзеш? — пытаецца ён у каня.

— Конь. А ты хто?

— А я леў. Над усімі звярамі цар. Я цябе з'ем.

— Каб з'есці мяне, — кажа конь, — трэба сілу мець...

Стукнуў леў сябе хвастом па баках, зароў:

— Я самы дужы звер!

— Го-го-го! — зарагатаў конь. — Яшчэ паглядзім, хто з нас дужэйшы. Давай сілаю мерацца!

— А як будзем мерацца? — пытаецца леў.

— Бачыш, вунь вялікі камень.

— Бачу, — кажа леў.

— Дык вось, хто стукне па гэтым камені так, каб агонь з яго паказаўся, той і дужэйшы.

— Добра, — згадзіўся леў.

Падышоў ён да каменя і пачаў біць лапамі. Біў, біў, толькі кіпцюры паздзіраў, а агню так і не выбіў.

— Гі-гі-гі, — смяецца з яго конь. — Слабы ж ты, брат, зусім. А яшчэ царом лічышся! Вось глядзі, як я стукну.

Падышоў стары конь да каменя, стаў да яго задам, падбрыкнуў і смальнуў падковамі аб камень... Іскры з каменя так і пасыпаліся...

„Ого, — падумаў сам сабе леў, — благія жарты з такім зверам". І, нікога не сказаўшы, пабег у лес. Там сустрэўся яму воўк.

— Добры дзень, ваша царская міласць! — пакланіўся яму воўк. — Куды мелі ласку хадзіць? Што чулі, што бачылі?

— Быў на зялёным лузе, — адказаў леў. — Бачыў там самага дужага звера...

— Якога? — пытаецца воўк.

— Каня.

— Гм... — кажа воўк. — Я іх не толькі бачыў, але і з'еў нямала.

— Што ты выдумляеш! — усхадзіўся леў. — Не можа быць.

— То хадзем, ваша міласць, пабачыце, як я з ім распраўлюся.

Падыйшлі леў з ваўком да лугу.

— Дзе ж той конь? — пытаецца воўк.

— Ды вунь там, за кустамі ходзіць.

(Працяг на стар. 10)

## Геаграфічнае асяроддзе

### ПАЎЛЮКОВА ГАРА

Вёска Гацькі. З заходняга боку гэтага сяла ёсць горка, якую называюць Замак. Гарадзішча з пятага стагоддзя нашай эры. Стаіць яно ў шырокай даліне.

Бытавалі тут усходнеславянскія плямёны. Гэта гісторыя нашай бытнасці. З поўдня і з заходу Замак аблямоўвае серпападобны ўзгорак. Гэта і ёсць Паўлюкова гара.

Растуць там сосны і бярозы. На ўзгорку, сярод дрэваў, пад кустом прыжыўся заяц. Логавішча — у выглядзе прымітыўнай ямкі. Разложыстыя галінкі куста добра маскуюць шарака. Але гэта толькі на дзень. Заставацца тут нанач небяспечна. Ліsіца можа яго з'есці.

Усё ж заяц разумны. Вечарам ён ідзе да шашы. У прыдарожнай паласе пад кусцікам, у густым пустазеллі, ён спакойна прасядзіць. Ён добра ведае, што аўтамашыны з асветленымі фарамі яму ніякай крыўды не зробяць. А туды ліса не ідзе. Баіцца.

Ноччу я ездзіў веласіпедам ды нямала хадзіў пехатою. Пераканаўся, што зайцы сядзяць ля дарог.

Сляды зайца не давядуць да логавішча. Ён прабяжыць міма гэтага месца, а пасля вяртаецца, па сваіх жа слядах, скача ўбок. Такім чынам сляды ног не вядуць у „кватэру".

Геаграфічнае асяроддзе для зайца — гэта пералескі. У лясных масівах яго няма. Трымаецца ўзлесся.

У глыбокаснежную зіму звярку бывае цяжка з кармамі. Тады ён абгрызае кару асіны, вярбы, яблыні. Аднак не чапае дрэў каля свайго логавішча. Гэта значыць, не падразае галін, на якіх сядзіць. Гэта і для нас навука.

**Барыслаў Рудкоўскін**
Графіка аўтара

**Ніл Гілевіч**

### ПЕСЕНЬКА ПРА ДАБРАТУ

І я б хацеў начыстату
Пагаварыць
Пра дабрату,
Ды лепей прыйдзецца,
відаць,
Старую прытчу нагадаць.

Калісьці дзесьці дабрата
Хадзіла ў вобразе ката,
І вось чаго
Той добры кот
Дабіўся меней чым праз год.

Як зразумелі пацукі,
Што ў іх гуманны кот такі —
Спярша, адчуўшы дабрату,
Яны ад'елі хвост кату.

Пасля, аднойчы на двары,
Ушчэнт абгрызлі кіпцюры,
І засталася дабрата
Без кіпцюроў
І без хваста.

Тады ўсе мышы, пацукі
Пакралі з вышак кумпякі
І загулялі — будзь здароў!
Бо што ім кот без кіпцюроў?

Я прытчу ўспомніў
Тут знарок,
Бо ў ёй даецца мудры ўрок,
Што ў дабраты,
Мае сябры,
Павінны быць
І кіпцюры!

## ЗАГАДКІ

Сам не ўмее ён нічога,
А ў руку калі ж узяць —
Можа нам ён многа-многа
Паказаць і расказаць.

* * *

Госця ноччу завітала —
Палатна наткала.
Разаслала навакол —
Стаў святочна-белым дол.

* * *

Яго б'юць і адбіваюць,
Яго ловяць, забіваюць,
А ён лётае ды скача,
Не злуецца і не плача.

* * *

Калі з яе мы
будзем браць,
Яна вялікай зможа стаць.
А многа ёй калі дадзім,
То нават знікне назусім.

* * *

З-пад снегу выйшла,
Расцвіла,
І так,
Што аж зіма ўцякла.

**Міхась Пазнякоў**

Адгадкі: аловак, зіма, мячык, ямка, пралеска.

## НАСЦЕЧКА

(Працяг са стар. 9)

— Касою я накашу карове сена. Карова з'есць яго і дасць нам малака. А з малака, як ты ведаеш: і смятана, і тварог, і масла.

— А ты, бабуля, што робіш? — падышла бліжэй да бабы Насцечка.

— Я сяку бульбу, — лагодна адказала баба. — Усыплю сюды мукі, развяду цёпленькай вадою ды свіней накармлю. Вырастуць свінні — і мяса, і сала, і каўбасы будуць.

Пастаяла Насцечка, паглядзела на дзеда і бабу і кажа:

— Дзед сена будзе касіць, бабуля свіней карміць. А мне што рабіць?

— О! Абы ахвота была, а работы ў нас на ўсіх хопіць.

Кінула баба сячы бульбу, узяла місачку, насыпала ў яе залацістых зярнят.

— Я вось пайду свіней карміць, а ты, — падала яна місачку з зярнятамі Насцечцы, — курэй накорміш. Куры наядуцца зярнят і яечка табе свежае знясуць...

Прыехалі з горада тата і мама, бачаць: стаіць іхняя Насцечка сярод двара, сыпле курам ячмень, а тыя дзяўбуць яго ды ціхенька — ко-ко-ко! — перамаўляюцца, няйначай, радуюцца, што памочніца ў дзеда і бабы з'явілася, хваляць яе.

Глядзелі на Насцечку тата і мама, любаваліся: малая, а якая малайчына! Цяпер пэўна ведалі: будзе з яе клапатлівая гаспадыня-працаўніца.

(Працяг са стар. 9)

### СТАРЫ КОНЬ

— Не бачу, — кажа воўк.

Узяў леў ваўка пад лапаткі і падняў над сабою:

— Цяпер бачыш?

Маўчыць воўк, як вады ў рот набраўшы.

Паглядзеў на яго леў — а той і не дыхае: задушыў яго цар звяроў сваімі лапамі.

Апусціў леў ваўка на зямлю і кажа:

— Ну вось бачыш: ты толькі зірнуў на яго і то ўжо самлеў. А яшчэ выхваляўся! Што ж было б, каб мы падышлі блізка да гэтага звера: з'еў бы ён і цябе і мяне...

Напалохаўся леў каня ды ўцёк.

З таго часу ён і не жыве ў нас.

## АДГАДАНКА

Якія гэта ягадкі? Назаві іх па-беларуску. Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.

## Вясёлы куточак

— Скажы, бабуля, ці ты нічога не чула пра тыя грошы, што я суседу пазычыла?

— Чула, чула, яшчэ як! Аж вушы баляць. Ён за тыя грошы радыё купіў.

* * *

— Паглядзі, Коля, — гэта фатаграфія блізнятаў.

— Як жа гэта? Тут жа толькі адзін хлопец!

— Нічога. Другі выглядае зусім аднолькава.

* * *

Ішоў дзядзька па вёсцы. Бачыць, каля плота кот стаіць і мяўкае, відаць, не можа цераз той плот скочыць. Узяў дзядзька таго ката ды і перакінуў праз плот.

Бачылі гэта два іншыя дзядзькі, а адзін з іх сказаў:

— Будзе кепскае надвор'е, бо каты нізка лётаюць.

* * *

— Ведаеш, я сёння знайшоў чатыры падковы! — цешыцца Максім. — Што б гэта мела значыць?

— Гэта значыць, — адказвае яму Пятрок, — што недзе адзін конь боса бегае.

* * *

На ўроку фізкультуры.

— Ці ты ведаеш, якая розніца паміж беганнем і вучобай?

— Не ведаю.

— Я таксама не ведаю, хоць доўга думала.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Степная, 61, кв. 2. Моргуну Дмитрию. (4 клас).

* * *

БССР, 222402, Мінская вобл., Мядзельскі раён, санаторый „Баравое", д. 2, кв. 14. Лена Роліч (15 год), кв. 34 у тым жа доме — Левіна Наташа (14 год).

* * *

БССР, 220077, г. Мінск-77, вул. Галадзеда, 51/1, кв. 56. Грыб Аксана. (14 год).

* * *

СССР, 346523, Ростовская обл. г. Шахты, ул. Бульварная, 39 кв. 13. Голеневой Жанне (3 клас).

* * *

СССР, 163901, Архангельская обл., г. Новодвинск, ул. 3-й Пятилетки, 29а, кв. 70. Тонецкому Коле. (7 клас).



Адрас рэдакцыі: 15-950 Б...stok. ul. Wesołowskiego 1. „Зор..."

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Арабіна** — жонка араба.
**Асалавець** — аб'есціся сала.
**Астравок** — загон травы.
**Атаман** — хімік або фізік.
**Аўтар** — шафёр.
**Бабёр** — чалавек, які любіць есці боб.
**Байкот** — казачны мурлыка.
**Бакавіна** — бочка віна.
**Бакуніст** — жыхар сталіцы Азербайджана.
**Балгар** — спаленыя пункты, якія былі здабытыя раней.
**Балельшчык** — хворы чалавек, пацыент.
**Балея** — хворая жанчына.
**Балівія** — шпіталь.
**Баліста** — рэгістр хворых.
**Балон** — наведвальнік баляў.
**Бальніца** — салон для танцаў і вясёлых забаў.
**Бальшавік** — аўтобус, які ездзіць па бальшаку.
**Балюстрада** — прыгажуня перад люстрам.
**Бамбей** — моцны баксёр.
**Бандарка** — хуліганка.

„ядань"

## Міні-крыжаванка

У радкі 1, 2, 3 і 6 упісаць словы-паліндромы, якія таксама гучаць, калі чытаць іх ад канца. Астатнія словы маюць наступнае значэнне: 4) завостраная палка, 5) 365 дзён.

Для аблягчэння падаем значэнні слоў-паліндромаў у алфавітным парадку: *дарučэнне; рэвальвер; радыёлакатар; будан.* Месца іх упісання трэба таксама адгадаць.

*Фёдар Рымашэўскі, Мінск.*

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.




## НІЎКА




## ПАТТОРНАСЦЬ НЕПАСТОРНАГА

562

Са шчасцем так, як з хлебам: цэнім яго толькі тады, калі яго малавата.

563

Ёсць людзі, якія ад маладосці з'яўляюцца старымі, а ёсць такія, якія да старасці — маладыя.

564

Не заключай міру з уласным глупствам і не пачынай вайны з чужым розумам.

565

Бяда шукае нас з большай паслядоўнасцю, чым мы шукаем шчасця.

566

Уся яго працавітасць мела на мэце замаскаваць сваю ляноту.

**Алесь Барскі**

## Дабіўся свайго

**На мінулым тыдні я нашага дырэктара пакрытыкаваў на агульным сходзе.**

— Паважаны Пятро Міхайлавіч, — сказаў я з трыбуны, — за бяспеку працы кожнаму з нас, можна сказаць, карак праеў. А ці ведаеце, таварышы, што сам робіць?

Зала прыціхла ажно.

— На мінулым суботніку Пятро Міхайлавіч цыгунную балванку з зямлі самастойна ўзяў і хацеў у прычэп кідаць. Добра, я аказаўся побач, дапамог, а то не ведаю, што б было. Паўстае пытанне: а ці магчыма такі цяжар аднаму кіраўніку на пуп браць? Гэта ж прамое парушэнне тэхнікі бяспекі на вачах усяго калектыву!

— А што ў нас, дазвольце спытаць, робіцца з дысцыплінай? — працягваю. — Вы, паважаны Пятро Міхайлавіч, заўсёды патрабуеце ад нас выконваць распарадак працоўнага дня. А што, выбачайце, робіце асабіста? Пачатак работы з васьмі гадзін раніцы, а Пятро Міхайлавіч з'яўляецца на работу аж у сем гадзін! Дазвольце ў вас, дарагі Пятро Міхайлавіч, запытацца: „Ці ж гэта парадак?" Ды гэта ж прамое парушэнне працоўнага кодэкса.

Той-сёй ажно ў далоні запляскаў у знак падтрымкі.

— А што ў вас, таварышы, з прамсанітарыяй? Як толькі наш паважаны дырэктар выйдзе з кабінета — усюды чысціня і поўны парадак. А як пойдзе да сябе ў кабінет — ніякага парадку ў нашай вытворчасці. Выходзіць, наша прамсанітарыя па адным Пятру Міхайлавічу трымаецца. А мы з вамі тады навошта?

Пасля сходу мяне нават павіншавалі.

— Паглядзім, што цяпераі будзе! — кажу. — На крытыку трэба ж рэагаваць!

І вось мінуў тыдзень. Загадам па ўстанове намеснікам у Пятра Міхайлавіча цяпер я.

Хаджу зараз, радуюся. А чаму не радавацца? Прыемна робіцца на душы, калі ў наш час так на тваю крытыку рэагуюць.

**Вячаслаў Гілевіч**
(з кнігі „Крыштальная душа")

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА

— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

— А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Ясенька каня паіў,
Кася воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Кася воду чэрпала.

Кася воду чэрпала,
З Ясенькам размаўляла.
Люлі, люлі, люлі,
З Ясенькам размаўляла:

— Ой, Ясю, мой міленькі,
Чаму ж ты не жэнішся?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не жэнішся?

Чаму ж ты не жэнішся,
На каго ж надзеішся?
Люлі, люлі, люлі,
На каго надзеішся?

Ці на дзянькі ясныя,
Ці на дзеўкі красныя?
Люлі, люлі, люлі,
Ці на дзеўкі красныя?

— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?






✱

Вядомы кінарэжысёр да пачынаючай актрысы:

— Я запрашаю вас здымацца ў маім новым кінафільме і абяцаю вам праз год Аскара.

— А калі гэта будзе дзяўчынка?

✱

— Вы прыгожая, інтэлігентная, добрая, мудрая жанчына. Чаму не хочаце выйсці за мяне замуж?

— Вы самі сабе адказалі на гэтае пытанне.

✱

— Чаго плачаш? Муж табе здраджвае, а можа прыніцель?

— Абодва!




**Калі тысяча людзей гавораць тое ж самае, то гэта або vox dei або вялікае глупства.**